# ДУМКІ й пагляды



Дадатак да «Беларускага Сьвету» 18(47) — 1986 г. № 8.

## СЬВЕДАМАЯ НАВАГРАДЧЫНА

У рэзультаце 2-ой сусьветнай вайны многа беларускіх эмігрантаў апынулася ў заходнім сьвеце. Гэтая палітычная эміграцыя не прыехала ў краіны вольнага сьвету, каб шукаць тут матэрыяльнай паправы свайго быту, але каб прадаўжаць працу згодна з прынцыпамі нашай вялікай канстытуцыі — 25 Сакавіка. Прыехаўшы на захад, гэтыя новыя беларускія эмігранты стварылі свае грамадзкія, харытатыўныя й рэлігійныя арганізацыі, каб па меры магчымасьці дамагацца на міжнародным форуме правоў да самавызначэньня й поўнай незалежнасьці Беларусі. Амаль ува ўсіх краінах заходняга сьвету актыўна й самаахвярна працуюць дочкі й сыны Наваградчыны.

Чым-жа тлумачыцца гэтая актыўная й самаахвярная дзейнасьць? Адным адказам на гэта ёсьць нацыянальна сьведамая беларуская Наваградчына зь яе цудоўнаю, прыгожаю натураю, зь яе вечна жывучаю рамантыкаю, зь яе старадаўнімі гістарычнымі традыцыямі. Аб яе красе натуры, аб яе рамантызьме й містыцы так прыгожа пісаў вялікі паэт Адам Міцкевіч, сын Наваградчыны й змагар за свабоду нацыянальнай душы чалавека, у сваіх паэтычных творах і бальлядах. Пісаў ён на польскай мове, але па паходжаньню ён чуўся сынам беларускай зямлі, называючы свой край "Litwo, Ojczyzna moja".

Знаходзячыся на ўзвышшы, амаль у сярэдзіне ўсходня-эўрапэйскай раўніны, Наваградчына мае багатую гістарычную мінуўшчыну. Праз яе землі з агнём і мячом праносіліся татарскія горды, пакуль вялікі наш князь Вітаўт ня прымусіў іх ўсьмірыцца ды асесьці на беларускіх землях, асабліва ў сэрцы Наваградчыны. Гэтыя напоў дзікія наезднікі на працягу доўгага часу зусім асыміляваліся, прынялі беларускую мову й сталіся адданымі сынамі Беларусі.

Па землях Наваградчыны праходзілі крыжацкія навалы, а пасьля — швэцкія, руйнуючы ўсё, што напатыкалі па дарозе. Сталіца Наваградчыны — гістарычнае места Наваградак быў некалькі разоў спалены, аднак ён не загінуў, ён ізноў паўставаў з руінаў да новага жыцьця, адбудоўваўся й стаяў на старожы сваёй беларускай гісторыі й свайго простага, шчырага беларускага люду.

Праз Наваградчыну праходзіла вялікая француская армія Напалеона ў сваім паходзе на Маскву, тут заўсёды крыжаваліся дарогі нашых «вызваліцеляў» featured рознага колеру. Нягледзячы на гэта, ніякі вораг ані акупант ня здолеў зламаць духа супраціву наваградчан; яны ніколі ня прызналі чужога панаваньня над сабою.

Яшчэ й сёньня існуюць памяткі зь гістарычнай мінуласьці самага места Наваградку — гэта гара Міндоўга, магілкі, на якіх паводле легенды быў пахаваны князь Міндоўг, Наваградзкі замак зь яго высокім валам, выкапаным да абароны супроць нападаў розных ворагаў, з двумя вежамі, сьведкамі сівой мінуўшчыны, з Барыса Глебскаю царквою з пачатку сярэднявечных часоў і фарным касьцёлам, у якім браў шлюб кароль Уладзіслаў Ягайла з князёўнаю Сафіяю Гальшанскаю.

І так гістарычная мінуласьць і рамантызм праз даўгія вякі стаялі

на стражы духовага й нацыянальнага адраджэньня Наваградчыны.

Асабліва глыбокі нацыянальны ўздым быў рэзультатам Слуцкага паўстаньня, калі слуцкія паўстанцы былі інтэрнаваныя на тэрыторыі Заходняй Беларусі, часова прызнанае заходнімі дзяржавамі Польшчы.

Із слуцкіх паўстанцаў, якія апынуліся ў самым Наваградку, трэба асабліва адзначыць братоў Аркадзя й Хведара Краткевічаў, якія мелі з сабою многа беларускай літаратуры й песьняў. Гэтыя выданьні яны пашыралі сярод моладзі Наваградку й яго ваколіц. Далей трэба адзначыць тут юрыстаў Янку Савіча й Янку Біруковіча ды працаўніка пачтовай сувязі Віктара Шапелевіча. Гэтыя людзі й шмат другіх, прынесьлі з сабою ідэі беларускага адраджэньня й пашыралі іх сярод насельніцтва Наваградчыны. Поруч зь імі працаваў для беларускай справы вядомы юрыст, доктар праўных навук, адвакат Павал Сьвірыд, які бараніў многіх беларусаў у судох абвінавачаных польскаю дэфэнзываю ў камуністычнай дывэрсіі. Адзінаю віною гэтых абвінавачаных была іх нацыянальная праца на карысьць беларускага народу.

Асабліва тут трэба падкрэсьліць глыбокае ўзьдзеяньне Беларускай Гімназіі ў Наваградку на ўзгадаваньне моладзі ў нацыянальным духу супраціву розным акупантам. Гэтая гімназія пад кіраўніцтвам першага дырэктара Пятра Скрабца й наступнага дырэктара Янкі Цеханоўскага, такіх настаўнікаў-змагароў за беларускую незалежнасьць, як др. Аляксандар Орса, Антон Валынчык, Язэп Драздовіч і Вячаслаў Лаўскі была кузьняю, у якой у цяжкіх абставінах рэпрэсіі з боку польскіх шавіністычных уладаў гартавалася беларуская моладзь, каб прадаўжаць працу сваіх настаўнікаў на беларускай грамадзка-палітычнай ніве.

Вось-жа, гістарычная мінуласьць, нашыя слаўныя случчакі ды мясцовыя адданыя працаўнікі для беларускай справы выгадавалі гэтых сучасных змагароў за слушныя правы беларускага народу на міжнароднай арэне.

Цяпер ужо поруч зь імі змагаюцца за беларускія ідэі многія сыны-эмігранты з розных мясьцін Беларусі.

Хацелася-б пажадаць усім нашым патрыётам плённых посьпехаў у вялікай місіі й добрага здароўя ды вытрываласьці на даўгія часы, аж да зьдзейсьненьня запаветаў вялікага Акту 25-га Сакавіка.

Хай Усемагутны Бог усьцеражэ іх перад нязгодаю й living рознымі сваркамі, перад хворымі асабістымі амбіцыямі ды правадырства на шкоду нашага шматпакутнага народу ў сучасны трагічны момант у яго гісторыі.

В. П.

А. А. Слонімскі (ЗША)

# МАЯ СЛОНІМШЧЫНА

## [Успаміны]

### (працяг)

У гэты час увайшоў у пакой нейкі чалавек і загаварыў да Р-ы панямецку. Яны абодва выйшлі ў бакавы пакой, — адтуль Р-а ўжо не вярнуўся. Сакратар П-нскі зьвярнуўшыся да ўсіх, што чакалі на рэгістрацыю сказаў, каб усе прыйшлі на другі дзень. Такім чынам Новік вярнуўся ў сваю хату жывым. Што сталася з Р-м, ніхто ня ведаў. Выясьнілася аднак, што быў гэта чалавек нядобрае натуры — адзін з тых палякаў, якія стараліся вынішчыць беларускую інтэлігенцыю нямецкімі рукамі, каб пазбавіць народ наш сваіх дзеячоў і кіраўнікоў.

Тут прыпамінаецца мне адна вельмі сумная падзея з таго часу. Савецкія ўлады ў свой час у Слоніме арганізавалі школу ФЗО для навучаньня моладзі практычнага рамясла. Таксама тады была ўтвораная пажарная ахова места з моладзі Слонімшчыны. У тыя часы камсамол толькі што пачынаўся пры школах. Калі пачалася вайна, вучні ФЗО хутка разьбегліся дамоў, а пажарная ахова засталася на сваёй службе. Пажарнікі насілі ўніформы зь нейкімі літарамі на рукавох. Вось-жа, ужо ўспамінаны Р-а ўгаварыў немцам, што гэтыя літары абазначаюць камсамол і немцы яму паверылі. Неўзабаве ўсіх пажарнікаў арыштавалі й дзесь вывезьлі, а ўпатойкі гаварылі, што іх расстралялі. А былі-ж сярод гэтых пажарнікаў хлапцы ўжо жанатыя ды з маленькімі дзецьмі.

Наслухаўшыся розных вестак, якія былі праўдзівымі ці можа з намыслам пашыраліся ў Слоніме — зрабілася мне страшнавата тут надалей заставацца. Хутка немцы пачалі адасабляць жыдоў у адзельны раён места ды вывозіць некаторых нібы на працу пад Альбэртын, адкуль яны не вярталіся.

Маючы свой самакат (ровар), я хутка выехаў ізноў у вёску, заставіўшы свой дом у Слоніме пустым. У Жыровічах напаткаў вялікі абоз фурманак, на якіх сядзелі фурманы й некалькі немцаў. Ехалі яны недзе з-пад Белавежы ў напрамку на Баранавічы. Выгляд вазоў быў беларускі, але некалькі было з адным дышлем. Мінуўшы абоз, я бочнай дарогай шчасьліва дабраўся да хаты свайго дзядзькі. Тут я пражыў можа месяц часу, пакуль усё ўспакоілася ды зьявілася новая ахвота ізноў паехаць у Слонім.

Было гэта ў канцы верасьня. Школьных заняткаў я не распачынаў, бо было ўсё зьбянтэжана рознымі падзеямі. Сьпярша хацелася спаткацца зь іншымі людзьмі й больш даведацца пра школьныя справы. Калі выехаў я ў Слонім, дык назад у вёску ўжо больш не вярнуўся. Чаму? А вось чаму.

У Слоніме ўжо ўсадавілася, можна сказаць, беларуская ўлада, хоць кіруючай уладай была нямецкая. Сп. Новік і гэтым разам быў мне вестнікам зь кім радзіцца й за што брацца. Хутка я накіраваўся ў інспэктарат, дзе застаў працаўнікоў на чале з царкоўным рэгэнтам зь вёскі Сурынкі, гадунцом духоўнае школы ў Жыровічах сп. М. Грынком. Мы лёгка згаварыліся й сп. Грынко даручыў мне арганізаваць рамесную школу на месцы былога ФЗО. Немцы ў гэтай справе не перашкаджалі. Трэба было брацца за працу.

Вось тады я пачаў хадзіць па ўсім Слоніме знаёмячыся з рознымі беларускімі старшынямі, якіх раней ня ведаў, бо іх у Слоніме ня было.

У першую чаргу паўстала ў Слоніме беларуская Самапомач. Бурмістрам места стаўся А. Кіслы, а старшынства раёну абняў сп. Ц-ч,

сын праваслаўнага сьвятара. Памятаецца, што камандантам паліцыі быў назначаны давераны фольксдойч Шварц, які жыў у Слоніме ад 1918 году. Ставіўся ён да беларусаў даволі прыхільна, можа таму, што быў жанаты з праваслаўнаю жанчынаю.

(далей будзе)

## ЗНАЧНАЯ ПАДЗЕЯ

### на беларускай музычнай ніве.

Нядаўна беларускі сьпявак Данчык насьпяваў яшчэ адну кружэлку. Гэтым разам кружэлка заслугоўвае на, так сказаць, вялікасьць. Падбор песьняў добры, выкананьне й акампанімэнт, як на эміграцыйныя ўмовы, выдатны. Ды што казаць, з гэтаю кружэлкаю ня сорамна ў людзі паказацца. Для Данчыка гэта відавочнае дасягненьне.

Хочацца аднак зьвярнуць увагу на адну маленькую няўвязку. На сьвеце няма нічога ідэальнага. Кажу я гэта таму, каб навесьці маю думку на падмену словаў у песьні «Зоракі» з «Бог магутны» на «лёс магутны». На маю думку паняцьце «лёс магутны» гучыць штучна й шурпата. Падмена гэтая выпала, коратка кажучы, няўдала.

Памінаючы гэты недагляд, хочацца пажадаць маладому сьпеваку новых, яшчэ лепшых удачаў. Думаецца, што беларуская грамадзкасьць ахвотна выкупіць гэтую выдатную музычную апрацоўку Данчыка.

Мікола



### Хоць кол на галаве чашы...

Нейкі былы «ўжэнднік» ці іншая «крэсовая шышка» падняўшы вочы ў неба, па «шляхецку» заяўляе, што Вільня й Львоў — гэта адвечна польскія месты без ніякіх найменшых заўвагаў і г. д.

Для гэтага «пана» сьвет запыніўся на 1939 годзе. Хто тады, скажам у Вільні, лічыўся зь беларусамі? Ніхто! «Владза» была ў моцных руках, а гэтыя рукі былі адзетыя ў штыўныя мундзіры, зашпіленыя на ўсе з каронаю гузікі. Казалі, што гэтых гузікаў ніхто на сьвеце ня мае права нават зачапіць. Ці-ж магла беларуская сялянска-мястачковая сярмяга раўняцца з гэтымі гузікамі й дзьмутаю пыхаю? Ніколі! Вось тады гэтыя дзівакі будавалі «мацарства» ад мора да мора ды яшчэ з афрыканскімі калёніямі. Што за вялікасьць фантазіі! Ды ўсё гэта пырснула, як мыльная банька.

Цяпер даводзіцца пану Баранецкаму безгранічна толькі мроіць... але, якое прозьвішча, такія й мроі.

К-вяк